# Вясёлых святаў! Шчаслівага Божага нараджэння!


# ПАГОНЯ

Чацвер
21 снежня 2000 г.
№ 48 (495)
Кошт 74 рублі


Віншуем усіх каталікоў Гародні са сьвятам Божага нараджэньня й запрашаем 24 сьнежня, пасьля пастэркі, на мейсца, дзе стаяў наш першы касьцёл - Фара Вітаўта падзеліцца Божым хлебам - аплаткаю.

## Іванўскі запрашае на выставу

26 снежня а 17-й гадзіне ў галерэі «Тызенгаўз» адкрыецца выстава Дзмітрыя Іваноўскага. Мастак прапануе гарадзенцам свае пейзажы і нацюрморты.

Ул. інф.

## Бомбу на чыгуначным вакзале не знайшлі

У 5.10 раніцы ў аўторак, 19 снежня, невядомая жанчына патэлефанавала на Гарадзенскі чыгуначны вакзал і сказала, што на тэрыторыі вакзала знаходзіцца бомба.

У гэты час на чыгунцы шмат людзей - сустракаюць цягнікі з Менска, Масквы, чакаюць пасадкі на Польшчу. Аднак сапёрам давялося ачапіць тэрыторыю вакзала і эвакуіраваць грамадзянаў на бяспечную тэрыторыю.

«Размінаванне» цягнулася каля дзвюх з паловай гадзін, аднак ніякай бомбы не знайшлі. За гэты час чыгуначны вакзал у Гродне цягнікі не прымаў. Пасажыраў ссаджвалі на бліжэйшых да станцыі «Гродна» прыпынках.

Алена Сіневіч

## У Гродне будзе Помнік памяці ахвярам рэпрэсіяў

У мінулы чацвер, 14 снежня, сход грамадскасці Гродна прыняў рашэнне усталяваць у нашым горадзе Помнік памяці ахвярам рэпрэсіяў.

На сходзе быў утвораны Грамадскі камітэт, у які ўвайшлі выкладчык універсітэта Міхась Патрэба, гарадзенскія журналісты Зміцер Кісель і Валерый Задаля, а таксама Павал Жук, Элеанора Макарава, якія ў свой час адседзелі вялікія тэрміны ў сталінскіх лагерах.

Створаны Грамадскі камітэт паведамляе ўсім ахвотным спрычыніцца да ўсталявання Помніка ў Гродне. Разліковы рахунак для грашовых ахвяраванняў: АКБ «Белпрамбудбанк», код 335 N3015003100013, Гродзенская Абласная арганізацыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

Павал Мажэйка




21, 22 снежня - воблачна, з праясненнямі, месцамі - снег, вецер паўночны, 5-9 м/с. Тэмпература паветра 21, 22 снежня - уначы -2...-4, удзень 0...-2.

Удзельнікі хора «Бацькаўшчына» выказваюць спачуванне і смуткуюць разам з Нінай Шаставіцкай з прычыны напаткаўшага яе гора - смерці бацькі




## Калядныя прывітанні ад Вікарнага Біскупа Гарадзенскай Рыма-каталіцкай дыяцэзіі ксяндза біскупа Антонія Дзямянкі

Заканчваецца юбілейны Год Хрысціянства. Быў ён багаты на розныя рэлігійныя падзеі ў касцёле. На Свята Юбілею катэдральная базыліка Гарадзенскай дыяцэзіі на працягу года збірала шмат разоў групы пілігрымаў, якія наведвалі святыню, каб атрымаць Юбілейны Адпуст. У лучнасці з паўсюдным касцёлам мы святкавалі Юбілей манаскага жыцця, рамеснікаў, моладзі, касцельных хораў ды іншыя. Пілігрымы нашай дыяцэзіі не адзін раз у гэтым годзе наведвалі святыні Юбілейныя ў Рыме. Вялікай радасцю для нас было вынясенне да хвалы алтара і абвяшчэнне блаславёнымі адзінаццаць сясцёр Назарэтанак мучаніц з Навагрудка 5 сакавіка гэтага года. Гэта ўсё - знакі Божай Ласкі.

Набліжаецца Дзень Божага Нараджэння, які нагадвае нам, што дзве тысячы гадоў таму «Слова сталося Целам».

Жадаю усім вернікам многіх Ласкаў Божага Дзіцяці, якое ў сваёй безабароннасці даверылася людзям, злучаючы з імі свае надзеі і планы. Жадаю духоўнага адраджэння, святасці жыцця і ўнутранага спакою.

Углядаючыся на Божае Дзіця, зложанае ў яслях, пазнаеш у Ім Збаўцу Свету, які адчыніў нам брамы нябёсаў. Езуз Хрыстус учора, сёння той сам і на вякі.

Няхай Свята Нараджэння Пана будзе магутным акордам радасці з Юбілею, а Нованароджаны Збаўца няхай блаславіць вернікаў ва ўсіх пачынаннях!

## Наступны год – год лёсавызначальных падзеяў на Беларусі! Слушныя рашэнні падчас гэтых падзеяў можа прыняць толькі добра інфармаваны чалавек. ПАГОНЯ дасць Табе гэтую інфармацыю! А таму – Падпішыся на ПАГОНЮ!

Ф. РД 1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

*АБАНЕМЕНТ* на газету / ~~часопіс~~ *63124* індэкс выдання

*"ПАГОНЯ"* (назва выдання)

Колькасць камплектаў: 1

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

*ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА* на газету / ~~часопіс~~ *63124* індэкс выдання

*"ПАГОНЯ"* (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | *1 тыс 200 руб.* | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. __ кап. | | |

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

 



# Батлеемска зорка



Засьвяціла ярка.
**Прыпеў:** Каляда, Каляда,
Каляда, Каляда.
Ярка засьвяціла,
Сьвет узвесяліла.
**Прыпеў.**
Сёньня Божа матка
Радзіла дзіцятка.
**Прыпеў.**
Лажыла дзіцятка
Ў яслі да ягнятка.
**Прыпеў.**
Дзіця невялічка,
Роўна з рукавічку.
**Прыпеў.**
Валхвы трох сталіцаў
Прыйшлі пакланіцца.
**Прыпеў.**
І прынесьлі дары
Маломy ўладару.
Прыпеў: Каляда, Каляда,
Каляда, Каляда.

Словы і музыка Я.Петрашэвіча



**На здымку: Яўген Петрашэвіч і ягоныя «Дударыкі»**

# Гарадзенская міліцыя помсціць журналістам ПАГОНІ?

**Пра тое, што гарадзенская міліцыя своеасабліва разумее рэжым законнасці, ПАГОНЯ пісала неаднаразова. Такая пазіцыя газеты прывяла да таго, што наша міліцыя - не, зусім не пачала дакладна выконваць заканадаўства - распачала паляванне на рэпарцёраў рэдакцыі.**

...Першага лістапада журналістка ПАГОНІ Юлія Дарашкевіч прысутнічала ў якасці прадстаўніцы СМІ пры ўскладанні кветак да мемарыяльнай дошкі памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага і падчас чытання вершаў Янкі Купалы ля помніка паэту. Гэтае жалобнае мерапрыемства грамадскасць горада праводзіла ў сувязі з адзначэннем Дзядоў, або Дня памяці продкаў. Раптам на гэтых людзей напалі супрацоўнікі міліцыі, і, з ужываннем гвалту, пачалі запіхваць іх у аўтамашыны. Наша журналістка тлумачыла, што яна выконвае службовыя абавязкі, а таму абароненая законам «Аб друку». Аднак яе ніхто не слухаў. Усіх затрыманых даставілі ў Ленінскі РАУС горада Гродна.

Гэтая спецаперацыя скончылася поўным канфузам міліцыі. Суд Ленінскага раёна прызнаў, што ўскладанне кветак і чытанне вершаў не ёсць мітынгам альбо шэсцем, на якія патрабуецца дазвол уладаў. Гэта азначае, што загад невядомага пакуль што ПАГОНІ міліцэйскага афіцэра адносна разгону і затрымання людзей меў прыкметы перавышэння службовых паўнамоцтваў і злоўжывання ўладай. Усе затрыманыя, у тым ліку і журналістка Юлія Дарашкевіч, падалі скаргі ў пракуратуру.

Днямі Юлія атрымала з пракуратуры адказ. Намеснік пракурора Ленінскага раёна горада Гродна Аляксандр Абрамовіч піша: «па Вашай заяве пра нібыта незаконныя дзеянні супрацоўнікаў органаў унутраных справаў» праведзеная праверка. «Вы ўдзельнічалі ў вулічным шэсці», - піша намеснік пракурора. І далей працягвае: «Асобныя з удзельнікаў несанкцыянаванага вулічнага шэсця спрабавалі аказаць супраціў работнікам міліцыі, у сувязі з чым у дачыненні да такіх асобаў і ўжывалася фізічная сіла..,супрацьпраўных дзеянняў з боку супрацоўнікаў органаў унутраных справаў не выяўлена...».

Ні Юлія Дарашкевіч, ні рэдакцыя ПАГОНІ адказ пракурора Абрамовіча не зразумелі.

Па-першае. Спадарыня Дарашкевіч пісала заяву не «пра нібыта незаконныя дзеянні», а пра менавіта незаконныя дзеянні. Трэба ўважліва чытаць. Магчыма, з-за гэтага пракурорская праверка пайшла зусім не ў той бок.

Па-другое. Суд не прызнаў ускладанне кветак і чытанне вершаў мітынгам ці вулічным шэсцем. Калі пракуратура з гэтым не згодная, то ёй трэба, мабыць (гэта, канешне, яе выключная кампетэнцыя), унесці пратэст на пастанову суда. У адваротным выпадку судовая пастанова мае сілу закона, у тым ліку, для пракуратуры.

Па-трэцяе. Журналіст мае не толькі права, але і абавязак асвятляць любую падзею, у тым ліку тую, якая не ўхваляецца ўладаю. Гэтага патрабуюць Канстытуцыя і Закон аб друку. Што мае пракурор Абрамовіч супраць Канстытуцыі і Закона?

Чацвёртае. Як трэба разумець фразу «спрабавалі аказаць супраціў»? Аказалі? Не. Тады што?

...Тым часам, гарадзенская міліцыя затрымала яшчэ адну журналістку ПАГОНІ - Алесю Сідлярэвіч. Яна прысутнічала ля пікету, які быў арганізаваны 9 снежня каля Гарадзенскага універмага. Вяла фотаздымку падзеяў. Міліцыянты схапілі яе, нягледзячы на тое, што яна прадставілася карэспандэнтам ПАГОНІ, паказала сваё пасведчанне. Ёй прыгразілі: «Пагавары яшчэ - у ізалятар пасадзім».

Глыбокапаважаныя пракуроры! Мы разумеем, што вам цяжка: падтрыманне законнасці сёння - справа далікатная. Але - каму цяпер лёгка? Таму, не трэба ствараць штучных праблемаў. Мы ўсе на рабоце: міліцыянты, пракуроры, рэпарцёры. Так што, як казалі старажытныя рымляне: «Хай разбураецца свет, але стаіць закон».

Ці ў нас зараз іначай разумеюць прынцып законнасці?

**Сяргей Самасей**

# Як калядавалі на Гарадзеншчыне

<u>Мар'ян Лышчык</u>, **72 гады, вёска Тапілішкі Шчучынскага раёна**

На Каляды звычайна хадзілі батлейшчыкі. Хлопцы і дзяўчаты ўбіраліся за чорта, казу, за Матку Боску, заходзілі ў хаты, спявалі песні, скакалі. Ніхто ніколі брамаў у вёсках, як зараз, не здымаў. Звычку гэтую пры саветах увялі. Святкавалі Каляды чатыры дні. Два апошнія не так урачыста, як першыя, але ўсё роўна не працавалі. У святыя вечары - шчодрыкі - дзяўчаты гадалі. Станавіліся на смаліска, дзе звычайна свінню колюць, і чакалі, покуль сабакі забрэшуць. Скуль першую сабаку пачулі - у той бок і замуж пойдуць. Ці збіраліся некалькі дзяўчат, бралі галкі (клёцкі з мясам), клалі ў радок і клікалі сабаку. Чыю першую клёцку сабака з'есць - тая дзяўчына раней за ўсіх і замуж пойдзе.

Святочны стол убіралі сенам, бо пан Езус нарадзіўся на сене, ў стайні. Заўсёды на стале была куцця, якую варылі з ячменю, квас, галушкі з макам, кісель. Кісель гатавалі з аўса (зараз - з аўсяных камякоў). Кожная сям'я, хоць мела і невялікую гаспадарку, штолета сеяла авёс, каб на Каляды, Новы год і на Тры Каралі зварыць кісель. Спярша елі аплатку, а потым усе мусілі пакаштаваць патроху кожнай стравы.

Да 1939 года ў ноч з 24 на 25 снежня хадзілі ў Шчучын да касцёла на імшу. Пры немцах, а пазней і пры саветах, начныя імшы забаранілі. У 1962 годзе зачынілі шчучынскі касцёл. Таму на ранішнюю імшу ў Камянку ці Жалудок (бліжэйшыя месцы, дзе працавалі касцёлы - **заўв. аўт.**) было цяжка дабрацца.

Калядныя святы заканчваліся на Грамніцы, 2 лютага. А ўвесь месяц вечарамі моладзь збіралася на прысвяткі. Дзяўчаты прыходзілі з калаўротамі, верацёнамі, працавалі, весяліліся. Адзін дзень збіраліся ў адной хаце, другі - у іншай. Весела калісьці святкавалі!..

<u>Крысціна Друціс</u>, **62 гады, пенсіянерка, былы медработнік, Гродна**



- Каляды - самае светлае і чыстае свята ў маім жыцці. У дзяцінстве і маладосці я чакала на яго цэлы год, бо верыла, што менавіта на Каляды здзяйсняюцца запаветныя мары і жаданні...

Памятаю, што ў гады ваеннага і пасляваеннага ліхалецця, нягледзячы на ўсе цяжкасці, мы заўсёды святкавалі Нараджэнне Хрыста. Мая маці накрывала белым абрусом стол, пад які клала сена, для нас, дзяцей, ставіла прыгажуню-елачку і аздабляла яе цукеркамі. Натуральна, рыхтавала калядныя стравы. Мы з нецярплівасцю чакалі першае зоркі на небе, а зранку - падарункаў пад елкай ад Святога Мікалая...

Неяк (гэта быў год 1948 ці 49-ты) мы - я, мая старэйшая сястра Зося і малодшы брат Алік навыперадкі кінуліся шукаць падарункі пад елкай. Я ўлезла першая пад елку, а елка перавярнулася і цалкам мяне накрыла. Маці давялося мяне «ратаваць» і выцягваць з-пад лясной прыгажуні...

Штогод зранку 25 снежня ўсе каталікі Пярэселкі (тады гэта была вёска) ішлі на Пастэрку ў Фарны касцёл. Народу было столькі, што рухаліся па некалькіх вуліцах - Віленскай, Цаглянай праз мосцікі на Гараднічанцы, праз цяперашні Новы парк. Аднаго разу, калі дзеці 25-га снежня не пайшлі ў школу (я вучылася ў сярэдняй школе N2, зараз там музвучэльня), дык настаўніца страшэнна лямантавала:

- Што, у касцёле былі?! А каб вы ўжо лбы сабе паразбівалі аб касцельныя муры!

У школе N2 вучылася шмат каталікоў з блізкіх вёсак - Падкрыжакаў, Малышчыны, Лапенак, таму ўсіх пакараць за даўнюю традыцыю было немагчыма. Традыцыі мы захавалі да сённяшняга дня.

**Віншую ўсіх з Калядамі і Нараджэннем Хрыста!**

# І смех і грэх, альбо Сачыце за мовай - думайце галавой

**Час ад часу ўключаю тэлевізар, калі хапае вытрымкі - гляджу БТ. Не Азаронкаў. (Як можна памыліцца чалавеку: мне думалася, што Зімоўскі - край цынізму і халуства). Гляджу афіцыйныя паведамленні. Але і гэтага хапае, каб здзівіцца ўбогасці думкі і непісьменнасці нашых праваdыроў. А зрэшты, чытайце самі.**

1. А.Р. пра дзяржкантроль: «Вы так давите удавку, что человек захлёбывается». А.Р., «захлёбываются» гарэлкай (можа, той самы дзяржкантроль). «Удавкой», хутчэй за ўсё, душаць таго ж чалавека. І ўрэшце рэшт, А.Р., альбо ў вас у дзяржкантролі уркі, альбо вучыцеся нарматыўнай лексіцы... «Удавка»!

2. А.Р.: «К лету 2001 года средняя зарплата по стране должна быть 100 долларов в месяц». Даруйце, што за вынік 7-гадовага кіравання краінай? 100 даляраў у месяц заробак быў яшчэ пры Кебічы ў 1994 годзе, калі Вы, А.Р., прыйшлі да ўлады. Г.зн. Ваша заслуга ў 2001 годзе будзе зводзіцца да вяртання эканомікі ў часы застою? Прасцей кажучы, заслуга роўная нулю, а гэта нават меней пшыку. Ды і гэты паўпшык Вы толькі паабяцалі. Чума!

3. Краіны Захаду, АБСЕ не прызналі выбары дэмакратычнымі, А.Р. пакрыўдзіўся: «Мы проводили выборы для себя, а не для них». Усё правільна, для сябе любімага. У чым тады крыўда, яны ж таксама пра гэта?

4. Красуцкі пра выбары: «Всё было хорошо, только одно замечание. Выборы нужно было проводить не с 8 до 20 часов, а с 7 до 21 часа». Якая смелая заўвага! А мы, дурні, «б'емся галавой аб сценку», не ведаем - чаму выбары праваліліся. Выяўляецца, час пераблыталі.

5. Красуцкі: «Мне понравилось начало работы депутатов (палаты N2)... Здесь не будет «одобрям-с» сразу»... Адразу не, але потым усё ж будзе? Адным словам, не адмыцца Вам, грамадзянін Красуцкі, ад палаты N1 ды яе заслуг». Суцешыць Вас можа адно палата N2. Будзе не лепей і...адразу, адразу.

6. Беларусь за вочы называюць «запаведнікам сыцыялізму». Тады гэта адзіны запаведнік, які ўлады берагуць як зрэнку вока. Дарэчы, яны самі хіба лічаць сябе ў гэтым заапарку жывёламі, занесенымі ў «Чырвоную кніжку». А што вы думалі? Такая ахова ды жывёлам! Тады той «Чырвонай кніжкай» падціраццa можна.

7. А.Р.: «Мы падайшлі да таго, каб зрабіць Канстытуцыю некалькі мякчэй (?!). А.Р., Канстытуцыя - гэта Вам не ложак для любоўных забаваў. Канстытуцыя - гэта асноўны закон дзяржавы. Ён павінен быць. А мяккасць і цвёрдасць, можа, яшчэ пругкасць - гэта, хутчэй за ўсё, пасцельныя тэрміны. Сачыце за мовай, калі ласка.

8. А.Р.: «Перыяд хаосу ўжо прайшоў і можна перадаць некалькі паўнамоцтваў палаце». Я так зразумеў, А.Р. мае на ўвазе, хаос свайго 6-гадовага кіравання? Так? Тады чаму ж прайшоў? Працягваецца! Яшчэ як працягваецца! А ўвогуле ці патрэбныя паўнамоцтвы васалам?

9. А.Р.: «Не волнуйтесь! Буду, буду я президентом в 2001 году. Неужели вы не видите по парламентарным выборам!» А як жа! У тым і праблема ўлады, што бачым. Вам бы сляпы электарат. Хаця з апошнім сцвярджэннем можна і паспрачацца. У сэнсе свядомасці.

10. Патрапіў, патрапіў Навасяд у палату N2. Гаварыў я вам - чужыя там «пралятаюць». Вось і атрымалася - свой, свой ён ім. Я так думаю, «гэты» і да палаты N6 дапаўзе. Хто наступны? «Герастраты» вы нашы шалапутныя.

11. Гляджу фільм «Любить по-русски», дзе герой Матвеева (губернатар), сустракаючыся з мафіяй (?!) пераконвае тых не рабаваць расіянаў. Далей ён гаворыць мафіі: «Вот объединимся с Белоруссией, вам там такие перспективы будут»... Без каментару...

**(Працяг будзе)**

**З прывітаннем,
спадар Падмяталін**

 

# Кожны можа стаць Святым Мікалаем

**Упрыгожаная елка. Святы Мікалай з падарункамі. Святочная сямейная вячэра. Кожны з нас чакае, калі Каляды завітаюць у нашу хату. Але ёсць адзін дом, дзе калядныя падарункі і ўтульная сямейная вечарына застануцца толькі ў марах дзяцей. Назва гэтаму дому - Дзіцячы сацыяльны прытулак, што месціцца па вуліцы Урублеўскага,76а.**

## Гісторыя стварэння

Дзіцячы сацыяльны прытулак быў адчынены 1 верасня 2000 года на базе былога дзіцячага садка №57, але існаваць ён пачаў значна раней. Яшчэ ў 1998 годзе тут была адкрыта першая група інтэрнацкага тыпу. У сацыяльным прытулку знаходзяцца дзеці, якія патрапілі ў экстрэмальныя сітуацыі: п'янства, псіхічныя хваробы, смерць бацькоў ці проста нежаданне маці і таты нармальна выхоўваць сваіх дзяцей. Апошнія павінны ўтрымлівацца тут некалькі месяцаў (па статуту - шэсць) да канчатковага вырашэння іх лёсу судом: вяртання назад да бацькоў ці размеркавання ў інтэрнат. На сённяшні дзень тут знаходзіцца 37 дзяцей, 27 з якіх жывуць стала, бо няма месцаў у інтэрнаце.

## Хто працуе

Выхаваннем юнакоў і дзяўчат займаюцца дванаццаць выхавальніцаў, два сацыяльныя педагогі, музычны кіраўнік, што засталіся тут пасля рэарганізацыі дзіцячага садка.

__Ганна Станіславаўна__, сацыяльны педагог:

- Вядома, што праца з такімі дзецьмі адрозніваецца ад працы ў простым дзіцячым садку. Гэта «запушчаныя дзеці» ў сацыяльным і педагагічным плане. Некаторыя з іх некалькі гадоў не хадзілі ў школу. Ёсць дзеці, якія нават не ведаюць, калі нарадзіліся. Шмат хто, апроч п'янства ды сварак бацькоў, больш нічога ў жыцці не бачыў.

## Хто жыве

Алега (4 гады) і Дзіму (5 гадоў) Рышкевічаў прывезла міліцыя, забрала дзетак ад п'яных бацькоў. Праз тры дні бацька Алега і Дзімы ў п'янай сварцы забіў іх маці. Ён быў асуджаны на сем гадоў і пазбаўлены бацькоўскіх правоў.

Святлана, Наталля і Аксана Кушнер (16 гадоў) перад тым, як патрапіць у прытулак два з паловай гады жылі адны. Старэйшай Аксане было трынаццаць, а самаму малодшаму брацiку - тры (зараз ён знаходзіцца ў інтэрнаце), калі памёр іх бацька, а маці кінула і сышла да іншага мужчыны.

__Аксана Кушнер:__

- Мы жылі на пенсію, што плацілі за бацьку. Ніхто не ведаў, што мы былі адныя. Пакуль сёстры не пакінулі хадзіць у школу. Тады пачалі дахаты прыходзіць настаўніцы - так і даведаліся. Малых забралі адразу, а я ўцякла і шэсць месяцаў бадзялася па хатарах і сяброўках. Неяк прыйшла дадому памыцца - адтуль мяне і забралі ў прытулак.

Першыя дні знаходжання ў прытулку, асабліва раней, дзеці праходзілі адаптацыйны перыяд. Узлаваныя на бацькоў і ўвесь свет, яны не хацелі прымаць дапамогу і выхавальніцаў.

__Ганна Станіславаўна__, сацыяльны педагог:

- Спачатку мы бегалі за імі па ўсім горадзе, часам басаног па снезе. 11-гадовых Алеся, Руслана і Гену пасля ўцёкаў АМАП затрымаў у раёне старога аэрапорта пры спробе перайсці беларуска-польскую мяжу. У заплечніках хлопцаў знайшлі вырваны ліст са школьнага атласу з пазначаным маршрутам, некалькі буракоў ды зменнае трыко.

Наступны раз тыя ж Гена і Руслан разам з 16-гадовай Наталляй вырашылі наведаць не бабулю. Дзяцей затрымалі ў Маладзечне на чыгунцы міліцыянты, пераправілі ў Менск. Адтуль іх і забралі выхавальніцы прытулку.



Маленькая Насця папрасіла ў Святога Мікалая Барбі



Сёстры Аксана, Света, Наталля мараць пра свой магнітафон

## Жыццё-быццё

Дзеці жывуць па пяць чалавек у пакоі. Ходзяць у звычайную школу. Двойчы на тыдзень бясплатна наведваюць басейн у Фізкультурна-аздараўленчым комплексе. Кожны тыдзень для іх праводзяцца мерапрыемствы: КВД, спартландыі, дыскатэкі. Кожны месяц праходзяць заняткі па вывучэнні Канвенцыі па правах дзіцяці. Але праблемаў хапае. Насцю з-за пастаяннага блукання па прытулках дагэтуль ніяк не могуць адправіць у школу, дзяўчыне ўжо пайшоў восьмы год.

Алёшу бацька хоча забраць дахаты, але хлапчук гэтага не хоча. На думку выхавальніцы Валянціны, дзеці новай жонкі бацькі Алёшы кожны раз праваюць хлопчыка, кажуць, што ён увесь час рабуе. Таня таксама сказала, што ніколі не вернецца дадому, нават калі матуля будзе забіраць яе. А Мар'яна, наадварот, марыць, калі маці вылечыцца і забярэ яе з прытулку.

Утрымлівае дзяцей дзяржава: выдаткоўвае грошы на харчаванне і рэчы першай неабходнасці. Астатнія рэчы дзеці прынеслі з хаты. Былі аднаразовыя гуманітарныя дапамогі з Галандыі ды Італіі. На кожны Новы год прыходзяць баптысты, прыносяць падарункі. Час ад часу самі выхавальніцы за ўласныя грошы ладзяць «салодкія сталы».



Алена хоча атрымаць на Каляды вялікую мяккую цацку

## Нашыя мары

Мара ў большасці дзяцей адна - вярнуцца дахаты, у нармальную сям'ю да мамы з татам. А на Каляды яны мараць, вядома, пра Святога Мікалая з падарункамі і елачкай. Насця замовіла ў Святога Мікалая ляльку Барбі, Алена хоча атрымаць у падарунак вялікую мяккую цацку, Света з Наталляй жадаюць мець свой магнітафон ці плэер.

Кожны з Вас можа стаць для гэтых дзетак Святым Мікалаем. Завітайце да іх і падаруйце дзецям некалькі хвілінаў радасці!

Юля Коцкая

# Генадзь Бураўкін гасцюе ў Гродне

**Два дні - сёння і заўтра - лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, знакаміты паэт Генадзь Бураўкін прэзэдзе з гарадзенцамі. Разам з ім у Гродна прыехаў крытык і празаік Яўген Лецка.**

У чацвер, 21 снежня, адбываюцца дзве сустрэчы з аматарамі літаратуры. Раніцай Генадзь Бураўкін выступіў у абласной бібліятэцы імя Карскага перад бібліятэчнымі работнікамі. А ў 14 гадзін адбудзецца сустрэча з моладдзю і студэнтамі у трэцяй аўдыторыі філалагічнага корпуса ГрДзУ, што па вуліцы Леніна. Запрашаюцца ўсе ахвотныя. Увечары плануецца культурная праграма з удзелам рэктара універсітэта.

Гэта будзе другое запрашэнне Бураўкіна ў Гродна. Першы візіт не адбыўся напрыканцы кастрычніка з-за арганізацыйных накладак. Загадчык кафедры беларускай літаратуры, адзін з арганізатараў літаратурнай сустрэчы Мікалай Маляўка ў прадчуванні цікавай падзеі гаворыць, што «гэта будзе добрая магчымасць для ўсіх нас у душэўнай атмасферы адчуць гэтую неардынарную асобу, лад мыслення, заангажаванасць у грамадска-палітычную праблематыку. Ды і пагаворым пра сучасную літаратуру, крытыку, не абмінем і палітыкі».

На другі дзень, пасля адпачынку ў гатэлі «Амега» вядомыя літаратары выступяць у гарадзенскім ліцэі N1. Пасля паклоннікі таленту Генадзя Бураўкіна арганізуюць яму ўрачыстыя праводзіны на цягнік «Гродна-Масква».

# «Лябірынты» - на «Паходні»

Сёння а 19-й гадзіне ў Гарадскім доме культуры на пасяджэнні клуба «Паходня» адбудзецца прэзентацыя анталогіі Гарадзенскага клуба паэтаў «Лябірынты прывіднага замку». Перад чытачамі выступяць аўтары гэтай кнігі, надрукаванай выдавецтвам у Беластоку Беларускім саюзам у Польшчы. На прэзентацыю запрошаны таксама вядомы беларускі паэт Генадзь Бураўкін.

# «Millenium-2001»

**У мінулую пятніцу ў Выставачнай зале саюза мастакоў адкрылася выстава «Millenium-2001».**

Так сябры мастацтва прафесійнага цэха адзначылі набліжэнне Новага года і пачатак Новага тысячагоддзя.

Выстава, што сабрала работы амаль двух дзесяткаў творцаў, атрымалася вельмі разнастайнай. Акрамя жывапісу, тут і «Калядны маладзік» Юрася Мацко, і скульптура Уладзіміра Панцялеева, і касцюмныя тэатральныя эскізы Розава. Сяргей Грыневіч у сваіх новых работах «Круглы стол» і «Ветракі» здзівіў новай выяўленчай стылістыкай. Тут ён адмовіўся ад звыклай палітры натуральных колераў, звярнуўшыся да ультраяркіх, «наваградніх» фарбаў.

Ул. інф.

# Вандалы знішчылі крыж

**8 снежня па-варварску быў знішчаны крыж ля Парэцкай царквы, што на Слонімшчыне. Помнік усталявалі на Дзяды слонімскія краеўцы ў гонар беларускага паўстанца Міхала Валовіча і ягоных паплечнікаў (гл. ПАГОНЮ N42 ад 9 лістапада 2000 года).**

Пяцімятровы шасціканцовы крыж быў асвечаны уніяцкім святлом, што, відаць, не спадабалася праваслаўным святарам і мясцовым уладам. Менавіта па іхняй ініцыятыве, паводле інфармацыі ПАГОНІ, крыж быў выкапаны.

Ул. інф.

# Гарадзенскія студэнты рассмяшылі Беларусь

**15-16 снежня ў Менску праходзіў V Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў эстраднай мініяцюры «Калядныя сустрэчы-2000». Гран-пры, першае і другое прызавыя месцы прывезлі дахаты гарадзенскія каманды.**

Удзел у фэсце прымала 10 камандаў з Менска, Гродна, Светлагорска, Масквы, Кіева і Ноўгарада. Пасля 2-дзённых сцэнічных баталіяў, гран-пры дастаўся СТЭМ «Вернісаж» (ГрДзУ), I месца - СТЭМ «БУМ» (ГрДАУ), II месца - СТЭМ «Habitus» (ГрДМУ), III месца - СТЭМ «Ай-да» (МДЛУ).

Лепшыя акторы - таксама гарадзенцы. Арцём Макараў («Вернісаж») стаў першым у намінацыі «Лепшая мужчынская роля», а Наталля Кохан («Habitus») - у намінацыі «Лепшая жаночая роля».

Юля Коцкая

# Палова гарадзенцаў увойдзе ў новы век з савецкімі пашпартамі

***- Ці праўда, што да новага года неабходна замяніць пашпарты савецкага ўзору на новыя?***

**Віктар, Гародня**

Як нам паведамілі ў аддзеле пашпартна-візавай службы ўпраўлення ўнутраных справаў аблвыканкама, канкрэтных тэрмінаў зьмены пашпартоў няма. Пасьпяшацца павінны толькі тыя, каму споўнілася 25 ці 45 гадоў. Усе астатнія могуць самі вырашаць, ці варта зьмяніць чырвоны пашпарт на сіні.

Новы дакумант абыйдзецца гарадзенцам у 30 працэнтаў ад мінімальнага заробку. На сёньняшні дзень гэта 1080 рублёў. Фотаздымак на пашпарт - яшчэ каля тысячы рублёў. Штамп «ва ўсе краіны сьвету» будзе каштаваць пяць мінімальных заробкаў, ці 18 тысячаў. Праўда, калі ў старым замежным пашпарце віза ва ўсе краіны сьвету яшчэ на скончана, яна аўтаматычна перанясецца ў новы пашпарт. Засталося дадаць, што новы дакумант вам зробяць за месяц-паўтары.

Мяняць пашпарты на Гарадзеншчыне пачалі ў 1995 годзе. За гэты час свой галоўны дакумант зьмяніла каля паловы ўсяго насельніцтва нашай вобласьці - больш за 627 тысячаў чалавек. Больш за чвэрць зь іх - людзі ад 16 да 25 гадоў.

Юлія Дарашкевіч

# Ад мяжы да «Бязмежжа» рукой падаць

**15-17 снежня ў Беластоку і Гайнаўцы праходзіў V літаратурны семінар «Бязмежжа». З гэтай нагоды прапануем вашай увазе нататкі-рэфлексіі аднаго з удзельнікаў згаданай імпрэзы - супрацоўніка нашай газеты, сябры Беларускага ПЭН-цэнтра паэта Юрыя Гуменюка.**

## Памежныя жарсці

Сёння выбрацца ў суседнюю Польшчу надзвычай проста і адначасова складана. Трэба мець грошы, патрэбныя дакументы і...сталёвыя нервы.

На памежным пераходзе, як заўсёды, калатнеча. Аўтобусы, фуры, легкавікі, узбудараженыя кіроўцы, нервовыя пасажыры, мытнікі, нейкія асобы ў цывільным... Нехта хоча праврвацца, але дарэмна. Усё даўно дамоўлена, павязана, адладжана. Гандлярка-спіртавозка, што ехала з намі ў рафіку, бесперапынна каментавала: «А-а! Глядзіце! Міша ўжо даў у лапу... А вось і Андрэя бусік, ён па некалькі разоў у дзень... Шкада, Валя ўчора патрапіла ў перазменку... Ва «фры-шопах» дзеўкі - гультайкі, не зацікаўленыя, каб больш гарэлкі прадаць...» Словам, усе ўсіх ведаюць у твар: хто што вязе, хто колькі бярэ, хто з кім спіць.

Нас выгналі з рафіка на мытны дагляд. Пасажыры-суседзі здзівіліся, што мы не вязем нічога на продаж. От, вандруем сабе з лёгкімі кейсікамі! «Так какая тогда цель вашего визита?» - падазрона спытала беларуская мытніца. Адказалі, маўляў, накіроўваемся на канферэнцыю. Пасля праштампоўкі пашпартаў і ўплаты «экалагічнага пабору» імчым проста ў Беласток.



Алена Сіневіч і Юры Гумянюк – удзельнікі «Бязмежжа-2000»

## Калегі цэняць і любяць

У Беластоку гарадзенскіх «акул пяра» ніхто не сустрэў, акрамя ветру з дажджом і заспаных прахожых. Мы адразу накіраваліся ў рэдакцыю газеты беластоцкіх беларусаў «Ніва», дзе нас напаілі смачнай кавай, прапанавалі прагледзець карэктуру будучага нумару. Прыемна было ўбачыць свой партрэт на першай паласе газеты ды прачытаць артыкулы Ганны Кандрацюк і Міры Лукшы пра фестываль на «На ўзбочыне Еўропы» з нагоды юбілею часопіса «Kartki» (я адзіны, як паэт, прадстаўляў на тым фэсце Беларусь).

У рэдакцыі Радыё Рацыя ужо былі знаныя госці са сталіцы - празаік Уладзімір Арлоў і паэт Славамір Адамовіч - галоўныя аб’екты зацікаўлення тамтэйшых радыёжурналістаў. За бяседным сталом і пачалося неафіцыйнае адкрыццё «Бязмежжа»: абмен уражаннямі, надзвычай смачныя канапкі і салаткі, традыцыйныя кава і гарбата, а таксама нетрадыцыйныя «сто грамаў». Арлова і Адамовіча па чарзе запрашалі ў студыю на запіс. Астатніх пакінулі «на закуску»...

## Юбілейны семінар

У Гайнаўку беларускіх літаратараў вёз картэж з трох самаходаў. На месцы ўладкаваліся ў гатэльчык нейкай сяльгасфірмы, абед з’елі ў рэстаране «Белая ружа» (пра рэстаран і яго гаспадара пана Зэнэка распавяду крыху пазней). Ну і нарэшце ў бібліятэцы Беларускага музея, які існуе і ніяк не дабудуецца ўжо 20 гадоў, адбылося афіцыйнае адкрыццё «Бязмежжа».

Першым узяў слова бурмістр Гайнаўкі Анатоль Грыцук. Ён адзначыў, што «Бязмежжа» - вельмі важная для Гайнаўкі культурніцкая падзея, якая лучыць польскі і беларускі народы. Бурмістр павіншаваў літаратараў з пяцігадовым юбілеем семінару і запэўніў, што будзе заўсёды спрыяць і нават дапамагаць фінансава ў правядзенні падобных сустрэчаў.

Гісторык Алег Латышонак, прадстаўляючы толькі што выдадзеную на польскай мове кнігу пісьменніка Уладзіміра Арлова «Рэквіем для бензапілы», высока ацаніў папярэднія працы вядомага беларускага празаіка ў галіне папулярызацыі гістарычных ведаў. Сам жа Арлоў прызнаўся, што на яго светапогляд паўплывалі Ларыса Геніюш і Уладзімір Караткевіч. Затым прачытаў колькі захапляльных тэкстаў. Публіцы асабліва спадабаўся тэкст «Задніца Еўропы», дзе па-майстэрску намаляваны стан рэчаў на Беларусі.

Другі дзень семінару пачаўся з прэзентацыі асобы і творчасці знанага беластоцкага паэта і перакладчыка Ежэго Плютовіча. Ён між іншым рэдагаваў вышэйузгаданую кнігу Арлова. Аўтар паходзіць з Бельска, даўні сябар паэткі Надзеі Артымовіч.

Наступнай атракцыяй юбілейнага «Бязмежжа» стала эмацыйнае чытанне вершаў скандальнага рэваншыста. Славамір Адамовіч запаволена-п’яным голасам дзяліўся ўражаннямі пра сваё жыццё і працу на будоўлі ў Амерыцы. Пасля зноўку кінуўся ў бездань паэзіі.

Завяршальны акорд семінару - выступленне гарадзенцаў. Сяргей Астравец (Астраўцоў) прачытаў колькі празаічных урыўкаў са сваёй кнігі-цаглiны «Цэнзарскія нажніцы» і выклікаў на сябе агонь крытыкі з боку Славаміра Адамовіча. Разгарэлася эмацыйная дыскусія, якую гаспадары ледзьве ўтаймавалі. Мне давялося запрэзентаваць выдадзеную ў Беластоку анталогію твораў Гарадзенскага клуба паэтаў «Лябірынты прывіднага замку» і прадставіць акрамя сябе двух ейных аўтараў - Анатоля Брусевіча і Васіля Дзівашэвіча. Вершы гарадзенцаў чыталіся на «біс»!

Урэшце рэшт семінар скончыўся ў рэстаране «Белая Ружа»...

## Пан Зэнэк і «Белая Ружа»

Гаспадар рэстарана «Белая Ружа», дзе мы смачна елі і весела бавілі час, - прадпрымальнік Зэнобіюш Галёнка - постаць проста незвычайна фантастычная. У гэтым элегантным маленькім чалавеку з густой бародкай столькі энэргіі і прагі да паўнавартаснага жыцця, што яму зайздросцяць і сябры, і нядобразычліўцы. Ён, апрача двух рэстаранаў пад той самай назвай «Белая Ружа» (адзін з іх месціцца ў будынку Беларускага музея), мае на вёсцы ўласны «мінізаапарк» і базу адпачынку над возерам. Паглядзець на гэтыя цуды і адпачыць прыязджаюць не толькі турысты з Польшчы, але і з Нямеччыны, Францыі, Злучаных Штатаў. Многія жывуць там месяцамі, ловяць рыбу, ездзяць на конях, ужываюцца ў пушчанскі ландшафт.

Пан Зэнэк уважае сябе за сацыяліста, таму лічыць, што ў яго ўсе павінны быць накормленыя і задаволеныя. Штодня ён бясплатна корміць мясцовых жабракоў. Пан Зэнэк сам бярэ на сябе ініцыятыву ладжання розных народных святаў і абрадаў, выездаў на прыроду і г.д. Ён прымаў у сябе кандыдата на прэзідэнта Пятра Ікановіча і выклікаў незадаволенасць іншых «сацыялістаў». Таму Аляксандра Кваснеўскага падчас перадвыбарчай кампаніі на Беласточчыне канкурэнты «схавалі» ад пана Зэнэка ажно ў Белавежы! Паэтка Надзея Артымовіч імкнулася ўсцешыць прадпрымальніка - маўляў, ёсць рэчы важнейшыя за палітыку.

Увогуле, кіраўніцтва Беларускага Музея ў Гайнаўцы хоча пазбавіць Зэнобіюша Галёнку памяшкання. Банкетную залу ўжо адабралі. Але ён не здаецца і будзе працягваць свой шляхетны «сацыялістычны» бізнес. Ну а кіраўніцтва Музея, на развіццё якога швейцарскія бізнесоўцы пералічылі недзе 100000 даляраў, не ведае - як імі распарадзіцца. Бо, калі грошы не «апрыходуюцца» да канца года, транш можа проста згарэць!

## Вяртанне

З Гайнаўкі да Беластока даехалі тым самым аўтамабільным картэжам. Развітвацца з арганізатарамі і панам Зэнэкам не хацелася, але... Да Гродна ехалі аўтобусам Biacomex за 24 злотых. Гэта ўдвая танней. Пілі польскае піва і жартавалі. Затое на мяжы мытніца доўга шманала «чаўнакоў». Перабірала ўсе гэтыя майткі, штаны, камбінацыі ды іншае барахло. Прывабіла ейную ўвагу і рэкламка з нашымі кніжкамі «Лябірынты прывіднага замку». Яна перапытала: ці гэта не палітычная літаратура. «Паэзія» - адказаў я. Праўда, што маецца на ўвазе ў дэкларацыі пад графой «Печатные издания и другие носители информации...», мытніца так і не здолела растлумачыць.

Яно і зразумела: у час выбуху камунікацыяў, сатэлітарнай сувязі, камп’ютараў, сотавых тэлефонаў ды Інтэрнету, падобныя графы - не больш чым глупства. А паэзію не спыніць, не стрымаць, бо яна не ведае межаў.

**Юры Гумянюк**
**Гайнаўка-Беласток-Гродна**

# Прыйшоў Славамір Адамовіч - усе адпачываюць



**На літаратурны семінар «Бязмежжа» ў Гайнаўку з’ехаліся беларускія і польскія знакамітасці - Надзея Артымовіч, Міра Лукша, Уладзімір Арлоў, гарадзенцы Юры Гумянюк і Анатоль Брусевіч. Аднак самай яркай, сакавітай і энергічнай асобай там быў, канешне ж, паэт Славамір Адамовіч (у новым іміджы).**

***- Славамір, ты ў гэтым чорным элеганцкім гарнітуры выглядаеш паэтам-эстэтам, а не барацьбітом. Ці ўсё яшчэ атаясамляеш сябе з вядомым вершам «Забі прэзідэнта»?***

- Ну што тут злоўжываць сціпласцю - скажу толькі, што ўсе вы (звяртаецца да прысутных літаратараў) можаце адпачываць у параўнанні са мною... На жаль, 10 гадоў прайшло - а колькі-небудзь таленавітай моладзі няма ў Менску, каб падштурхоўвалі ў плечы. Таму што няма разумення, што паэзія ёсць барацьба, а не толькі надпісы кшталту «Я цябе люблю» зарыфмаваныя. У Менску няма як палітычнага жыцця, так і культурнага. Ёсць толькі асобныя людзі.

***- І хто яны такія?***

- Я, Уладзімір Арлоў, можа, яшчэ колькі.

***- Вы камфортна ў творчым плане адчуваеце сябе ў Менску?***

- Нам, каб не загразнуць ў гэтым балоце, трэба выехаць у Варшаву, Бельск, або, як цяпер, у Гайнаўку, каб падсілкавацца творча. У гэтым сэнсе мяне прыцягвае правінцыя, і я - правінцыяльны пісака, бо прыехаў з Менска ў культурны цэнтр - Гайнаўку.

***- Як табе спадабалася Амерыка пасля паўгадавога знаходжання там?***

- Амерыка - то ўвогуле, зямля, якая дае эмоцыі для творчасці. Як вярнуўся напачатку кастрычніка - то два тыдні хадзіў па Менску ў незразумелым стане. Людзі соўгаюцца па праспекце Скарыны бязмэтна, або туды-сюды. Хочацца задаць пытанне: «Куды вы ідзяцё?» Ізноў усё тое самае: на Дзяды, як і 10-12 гадоў таму ходзяць у Курапаты, у вас, у Гродне, ставяць-здымаюць крыж. Адно і тое ж, няма прагрэсу. Не можаце тут зарабіць - змяніце сітуацыю. Хопіць насіць крыжы 12 гадоў.

***- А ты зарабіў у Амерыцы? Пэўна, з такой мэтаю туды ехаў?***

- Так, я зарабляў грошы на будоўлі і зарабіў сабе на кватэру, якую і купіў у Менску нядаўна. Свая кватэра, дарэчы - унікальны досвед. Адчуваеш нейкую незалежнасць, бо не імбрык які купіў.

***- Ці пісаў ты ў амерыках вершы?***

- Напісаў тры, апублікаваныя ўжо ў «Нашай Ніве». Адзін з іх - на 85-ыя ўгодкі Антона Шукелойця, кіраўніка беларускага задзіночання ў Амерыцы. Больш пісаць немагчыма было фізіялагічна, бо як прыходзіў з работы - кідаў рукі і ногі на ложак і спаў.

***- За гэты час ты не змяніў тэмы сваіх вершаў?***

- Ні ў якім разе. Бо тэма любові, кахання, палюбоўніцтва не можа змяніцца.

***- Аднак у сваіх вершах ты адкладаеш каханне да свабоды. Ці значыць гэта, што зараз ты недасягальны для жанчын?***

- Наадварот! Толькі з жанчынамі і пра жанчын! Усё знітавана, і гэта дае мне творчае сілкаванне.

***- Адкуль такая жыццясцвярджальнасць? Нашыя паэты злоўжываюць анемічным песімізмам...***

- Каханне і нянавісць - два полюсы адной энергіі. Гэта дае напал пачуццяў і хуткі пераход ад аднаго да другога. Лепш гадуйце ў сябе нянавісць, чым песімізм.

***- Каго б ты вылучыў у прэзідэнты на будучых выбарах?***

- Павінен у Беларусі нарэшце з’явіцца Пазьняк. Не абавязкова свяціцца, можна абвесціць: «Я прыехаў!» - і жыць неяк інкогніта. Я магу даверыць будучае Беларусі толькі Пазьняку. Пры тым, што ён зваліў з краіны ў вырашальны момант - усё-ткі яшчэ захоўвае ліміт даверу. Мая прапанова: Пазьняк - прэзідэнт як гарант суверэнітэту і законнасці; Домаш - канцлер, моцная выканаўчая ўлада.

***- Ты застаўся такім жа «палітычна-паэтычным экстрэмістам»?***

- Сёння я не стаўлю сабе за мэту трапіць за краты. Але паэзія - гэта энергія, сіла, кроў і слёзы. Так што заўтра мы можам размаўляць у іншых умовах.

**Гутарыла**
**Алена Сіневіч**
**На здымку:**
**Славамір Адамовіч**

# «У нашым клюбе былі танцы...»

«Ой, дурдом, і не пытайцеся...» - Валянціна Гусева, кантралёрка Палаца хімікаў, не магла схаваць свайго ўражаньня ад канцэрта. У гэты час на сцэне «Нейро Дюбель» «дабіваў» свой хіт «Belarus uber alles». Некалькі дзесяткаў распаленых, відавочна, півам і гарэлкаю фанаў таўкліся ў хаатычным руху ля сцэны. Міргалі запальнічкі ды агеньчыкі цыгарэтаў. «Праўда, некалькі песень «Крамы» мне спадабаліся», - заўважае Валянціна Гусева.

Музычны праект «Вольныя Танцы» сабраў у мінулую суботу ў Палацы хімікаў менш за палову залы. Наўрад ці варта было чакаць аншлагу, бо арганізатары запрасілі чатыры абсалютна разнапланавыя гурты. Малады трэшавы беларускамоўны «Твар», «Кальян», які зьмяніў свой імідж і выглядаў на тле былых рэгаліяў бездапаможна, старую добрую рок-н-рольную «Краму» ды «Нейро Дюбель».

А пачалося ўсё з так званай гарачай тэлефоннай лініі, якая мелася адбыцца (ды і ўрэшце адбылася) у нашай рэдакцыі. Гурты не здолелі на яе з'явіцца. Адзін з арганізатараў канцэрта, Віталь Супрановіч, у апраўданьне выдумаў дэтэктыўную гісторыю з затрыманьнем міліцыяй машынаў, што везлі ўдзельнікаў гуртоў. Усё аказалася працей: музыкі проста фізічна не здолелі прыехаць у прызначаны час з Берасця, дзе напярэдадні давалі канцэрт. За што публічна прынеслі чытачам ПАГОНІ прабачэньні.

А жывая лінія ўсё ж адбылася. Усе пытаньні, якія задалі лідарам «Крамы» і «Нейро Дюбеля» нашыя чытачы з дапамогай тэлефона і пейджара, мы накіравалі па адрасу. Ігар Варашкевіч і Аляксандр Кулінковіч ахвотна на іх адказалі.



**Ігар Варашкевіч, лідар «Крамы»**

- Баюся пакрыўдзіць Гародню, але ў Берасці быў лепшы канцэрт, як гэта і не дзіўна. Мы думалі, што будзе наадварот. Там была поўная зала і трошкі лепшая атмасфера. А тут, ад хлопцаў, што стаялі ля сцэны і «тащились», ішла нейкая негатыўная энергетыка. Мне было досыць цяжка. Тыя людзі, якія прыйшлі на «Краму», сядзелі там, дзе я іх не бачыў. Разумееш, я не меў з імі кантакту.



**Аляксандр Кулінковіч, «Нейро Дюбель»**

- Мы ж таксама лысыя, але гэта не адзначае, што мы «скіны». Навошта лезці на сцэну і псаваць канцэрт? Не крыўдуй, але ў Берасці быў лепшы канцэрт адназначна. Там такая самая зала, нават крэслы і праходы аднолькавыя. Але яна была поўная. Прычым там наогул не было рэкламы. Праўда, гады два таму, мы ў Берасці ўжо выступалі, таму нас ведаюць.



Ля сцэны не было дзе ўпасці яблыку

## Крама пайшла на фронт

*- Апошнія пяць гадоў «Крама» працягвае сьпяваць свае старыя хіты, нічога вартага новага амаль не створана. Якую шыльдачку вы павесілі б на дзьвярах «Крамы»: «Усе пайшлі на фронт» ці «Прыём тавару»?*

Ігар Варашкевіч:

- Калі выбіраць з двух надпісаў, дык, напэўна, - «Пайшлі на фронт». У прынцыпе, мне абрыдла адказваць на гэтае пытаньне - усё у нас нармальна. Уся праблема ў грошах, каб запісаць новую песню. Гурт існуе, музыкі нармальныя, мы працуем.

*- Ці плануецца бліжэйшым часам выданьне новага альбома?*

І.В.:

- Так, плануем. Але пакуль не будзем пра гэта, бо атрымаецца, як заўсёды. Гэта будзе зьмяшаны альбом - палова старых хітоў і палова новых песень. Назву альбома пакуль не скажу.

## Паўтары бутэлькі Аляксандра Кулінковіча

*- Ты часта распранаешся на сцэне, нават узімку. Не халадно?*

А.К.:

- На сцэне ніколі не халадно. Клаус, налі мне гарэлачкі. *(Лідар «Нейро Дюбеля» зьвяртаецца да гукааператара «Крамы» і мы чакаем, пакуль Кулінкевіч вып'е з пластмасавага кілішка налітую гарэлку, зап'е «Фантай» і запаліць цыгарэту).*

*- Як я зразумеў, пытаньне, што ты піў сёньня на сцэне, адпадае?*

А.К.:

- Так, я піў гарэлку. Гэта допінг. Я магу выпіць на сцэне паўтары бутэлькі. Але не п'янею, бо ўсё выходзіць з энергіяй у залу. Часта бывае так, што зала занадта агрэсіўная. І калі я не буду піць на сцэне гарэлку, я звалюся пасля трэцяй песні.

## Прэзідэнцкі тур

*- Ці будуць «Крама» і «Нейро Дюбель» удзельнічаць у музычным прэзідэнцкім туры, калі такі будзе, у падтрымку адзінага кандыдата ад апазіцыі?*

І.В.:

- Я думаю, можа, і будзем. Ездзілі ж мы ў той раз.

А.К.:

- Усімі сіламі будзем змагацца. Я нават свае ўваходныя дзьверы планую распісаць пад гэтыя мэты.

## Пераехала камбайнам

*- Ці нясуць тэксты «Дюбеля» нейкі сэнс?*

А.К.:

- Не, нашыя тэксты не маюць аніякага сэнсу. Як у чукчаў, што бачу, тое і пяю. Толькі ў «Нейро Дюбеля» - што адчуваю, тое і сьпяваю. Праўда, адчуваць можна рознае.

Свае тэксты я пішу усюды і ўвесь час, нават у тралейбусе. Напрыклад, «Переехало комбайном» пісалася чатыры гады.

*- У сувязі з гэтым ёсць пытаньне. Ці плануеш напісаць «Пераехало камбайном» па-беларуску?*

А.К.:

- А што, гэта будзе прыгожа! «Пера-еха-ла ка-мба-йнам» *(Кулінковіч пачынае прагаворваць тэкст песні на беларускі манер).* А, хаця? Дарэчы, пра мову. Я нармальна размаўляю па-беларуску. Усе ведаюць, што песні «НД» ад душы, а калі мы пачнем сьпяваць па-беларуску, кожны скажа - гэта не шчыра.

Я вельмі паважаю лозунг «Жыве Беларусь!». Але я не хачу яго крычаць там, дзе гэта не патрэбна і не да месца. Я ведаю шмат людзей, якія размаўляюць па-беларуску, але прададуць Беларусь у імгненне вока і прычым вельмі танна.

Я быў вельмі шчасьлівы, калі аднойчы пачуў, што «Нейро Дюбель» - адзін з самых нацыянальных беларускіх рок-гуртоў.

## Пра піва

*- Ігар, колькі піва выпівае «Крама»?*

І.В.:

- Зараз мала. Мы пілі шмат піва, калі мелі рэпетыцыі на піўзаводзе. А ўзімку я піва не люблю. Цяпер я п'ю гарэлку, віно. Не напоі гэтыя, што зробленыя, каб загубіць нацыю. Ёсць партвейны розныя ў памеры - 1,5-2 тысячы.

## Кулінковіч не любіць Земфіру і амерыканцаў

*- Чаму лідар «Нейро Дюбель» не любіць Земфіру?*

А.К.:

- А адкуль ты ведаеш, што я не люблю Земфіру? У нас неяк у Менску быў канцэрт у адзін дзень з Земфірай. Гэта была вялікая памылка, бо нават крутыя расейскія зоркі не робяць канцэрты ў адзін дзень з Земфірай. Але мы здолелі сабраць цэлую залу. Нашыя знаёмыя журналісты казалі: «Хлопцы, вы зрабілі цуд!» Я, хутчэй за ўсё, маю рацыю. Земфіра няшчырая. У расейскім шоу-бізнесе пра яе добра не гавораць. Яна нахабная, а я нахабных не трываю.

*- А чым табе амерыканцы не да спадобы?*

А.К.:

- Гэта злачынная нацыя. Няўжо ты гэтага не бачыш? Мяне вельмі ўражвае, калі кажуць: «Ах, вы не любіце амерыканцаў! Вы, напэўна, з БПСМ ці Луку любіце?» Гэта ж неабавязкова, каб вораг майго ворага быў маім сябрам.

## Пра пахаваньне

*- Чытач пытаецца: якую музыку ты хацеў бы чуць на сваім пахаваньні?*

А.К.:

- Самая мая нязбытная мара - я хацеў бы, каб мяне выносілі ў труне пад музыку «Дэтэктар ілжы». Я нават сваёй жонцы сказаў: «Алена, паабяцай. Выносіць, можа, і не атрымаецца, але ў хаце каб грала».

**Павал Мажэйка, Алеся Сідлярэвіч**

# Гарадзенскія паэты хочуць друкавацца ў Гродне

**У панядзелак, 18 снежня, у Гарадзенскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў адбыўся чарговы пісьменніцкі сход. Літаратары вобласці ўпершыню сабраліся ў новым памяшканні (па вуліцы Савецкай,8), якое гарадзенскія ўлады выдзялілі Саюзу пісьменнікаў замест ранейшага ў доме-музеі Элізы Ажэшкі.**

Новае памяшканне не зусім прыдатнае да працы. Пакуль яшчэ няма тэлефона, ды і месцаў для ўсіх 17-ці сябраў Гарадзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў у пакоі не хапае. Аднак Данута Бічэль, старшыня аддзялення, досыць спакойна глядзіць на новыя ўмовы працы, бо яшчэ ў лютым стаяла пытанне наогул пра ліквідацыю Саюза пісьменнікаў у Гродне.

На сходзе былі ўручаныя ўзнагароды пераможцам гарадзенскага паэтычнага конкурсу, прысвечанага Францішку Багушэвічу. Адзначаныя былі Іна Мароз і Браніслаў Ермашкевіч.

Востра паўстала пытанне наконт выдання твораў, ці трэба пісьменнікам самім выпрошваць грошы на свае кнігі. Некаторыя ўдзельнікі сходу пагадзіліся з меркаваннем Дануты Бічэль, што «літаратура, якая выдаецца на жабрацкія грошы, нічога не вартая».

У выніку сход прыняў рэзалюцыю і скіраваў яе да старшыні гарадзенскага аблвыканкама Аляксандра Дубко. Пісьменнікі патрабуюць стварэння выдавецкага цэнтру: «паэты і пісьменнікі Гарадзеншчыны не маюць месца, дзе друкавацца, і друкуюць свае творы дзе патрапіцца, ад Чыкага да Табольска. А ў Расеі кожны губернатар мае ўласнае выдавецтва.

На сходзе таксама было прынятае рашэнне адносна правядзення ў наступным годзе шэрагу літаратуразнаўчых семінараў і стварэння бібліятэчкі аўтара пры «Гродзенскай праўдзе».

**Іван Паўлёнак**




**ПАГОНЯ працягвае вызначэнне Чалавека стагоддзя Гарадзеншчыны. Нагадваем нашым чытачам, што мэтай конкурсу з'яўляецца пошук такой асобы, якая сваёй дзейнасцю, творчасцю, жыццёвай пазіцыяй як найболей выяўляе дух і ментальнасць нашага рэгіёна. Вядомасць па-за межамі Гарадзеншчыны - таксама немалаважная, хаця і не галоўная, якасць, якой павінен валодаць намінант конкурсу. Ну і, канешне, гэты чалавек павінен быць патрыётам сваёй Радзімы, бо які ж тады ён гарадзенец?**

**Дарагія чытачы! ПАГОНЯ плануе падвесці вынікі конкурсу ў першых нумарах наступнага года. Яшчэ ёсць час, каб унесці свае прапановы!**

# Тарашкевіч з яго «тарашкевіцай»...

**Першапачаткова планавалася, што падручнік «Беларуская граматыка» напіша Максім Багдановіч. Аднак паэт хварэў і санкт-пецярбургскае паветра яму толькі шкодзіла. Было вырашана даручыць справу выпускніку 2-й віленскай гімназіі Браніславу Тарашкевічу. Ён вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага універсітэта.**

Выбар быў зроблены рэдакцыяй газеты «Наша Ніва» беспамылкова. 25-гадовы беларускі студэнт выканаў даручэнне. Яго падтрымалі вядомыя вучоныя - акадэмікі Я.Карскі і Я.Шахматаў. Праца сталася адметнай з'яваю ў шэрагу аналагічных работаў...



Браніслаў Тарашкевіч

Браніслаў Тарашкевіч шмат разоў быў у Гродне. Палымяныя прамовы лідара 150-тысячнай Грамады гучалі на цяперашняй Савецкай плошчы Гродна падчас выступленняў рабочых за свае правы. Ён нязменна крочыў у першых шэрагах дэманстрантаў, завітваў у самыя глухія вёскі Заходняй Беларусі.

Гэтаксама патрыятычна і горача выступаў з трыбуны польскага Сейму ў 20-30-я гады, калі быў дэпутатам гэтага прадстаўнічага органа. Тыя прамовы трэба чытаць, каб пераканацца, што Браніслаў Тарашкевіч быў сапраўдным палітыкам, з глыбокім веданнем сітуацыі. Яшчэ напрыканцы 30-х ён публічна і беспамылкова прадказаў другую сусветную вайну, знішчэнне Польшчы як суверэннай дзяржавы. А яго выступленні ў абарону беларускай мовы! Сёння нам бы такіх прамоўцаў!..

У Гарадзенскай турме Браніслаў Тарашкевіч адседзеў больш як два гады з атрыманых васьмі. Працуючы над праблемамі мовы і лінгвістыкі, перагарнуў шмат кніг. Пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча.

Савецкі ўрад абмяняў яго на драматурга-адраджэнца Францішка Аляхновіча. У савецкім Менску Тарашкевіча сустрэлі як героя-пакутніка. Але не прывіталі ні Сымон Рак-Міхайлоўскі, ні Пётра Мятла, ні Павал Валошын, ні Максім Бурсевіч - сябры па заходнебеларускім змаганні. Не пабачыў і Янку Купалу. Многія былі рэпрэсаваныя, шмат хто чакаў сваёй чаргі.

29 лістапада 1938 года Тарашкевіча знішчылі органы НКВД. У 1957 годзе навуковец быў рэабілітаваны. Так Савецкая ўлада «аддзячыла» выдатнаму барацьбіту і навукоўцу за яго дэмакратычныя погляды. Гэты чалавек пакінуў пасля сябе ўзоры публіцыстыкі, літаратурна-крытычную спадчыну. А галоўнае, абудзіў тысячы грамадзянаў «беларусамі быць».

Гэтая асоба для Гарадзеншчыны - знакавая. Але, на жаль, улады нашых дзён, як у свой час сталінскія, не шануюць патрыётаў. Таму імя і творчасць Браніслава Тарашкевіча не ў модзе. Відаць, сапраўдная рэабілітацыя навукоўца наперадзе.

**Антон Лабовіч**

